## Зьмест.

1. Піонэр—таварыш піонэрам і дзецям рабочых і сялян усяго сьвету—арт. **М. Адзінца**.—2. Ідзі спаткаці рань—верш **М. Багунца**.—3. Таварышы—апав. **Ул. Палякова**.—4. Бяспрытульны—верш **А. Розна**.—5. Будзь гатоў - п'еска **Багамыслава**.—6. Пятручок—апавяданьне **Л. Чарняўскай**.—7. Расьліны зімой—арт. **Я. Кіпеля**.—8. Там, дзе здабываецца сьвятло—нарыс **А. Тычыны**.—9. З усяго сьвету.—10. Чалавек ідзе—апав. **Я. Маўра**.—11. Наша жыцьцё.—12. Як мы наладзілі гарачыя сьнеданкі ў школе—нарыс **К. Шапялевіча**.—13. У дапамогу дзеткор-гурткам і рэдколегіям—арт. **Н. Вайнгаўза**.—14. Што чытаць?—рэцэнзія **Я. Зельцара** на кніжку „Гульні юных піонэраў“.—15. Паштовая скрынка.—16. Угадай.

## Хочам весьці перапіску.

*(Адрасы для жадаючых завязаць сувязь з піонэрамі іншых мясцовасьцяй і краін).*

1. Ст. Нарышкіна М.-Б.-Б. ж. д. атрад Ю. П. пры Багданаўскай райсельшколе, Урыцкай воласьці, Арлоўскай губ. і павету.

2. Баку, Балаханская, д. 36—38, *Н. Бэккэр.*

3. Смаленск, Выганны пер., д. 7, кв. 2, *Іосіфу Юдовічу.*

4. Гор. Екацерынаполь, Уманск. акругі, 3 атрад Ю. П. імя Крупскай, для *Суні Прынцман.*

5. Сымфэрополь, Набережная, 28, *Льву Чудакову.*

6. Гор. Нальчык, Кабардзіно-Балкар. Аўтаномная вобласьць, Акцябрская вул., дом 68. *Марылі Тэльковай.*

7. Гор. Харкаў. Стара Маскоўская вул. д. 29, кв. 8. *З. Біленко.*

8. Ст. Негарэлае, п/о Узда, Узьдзенскі піонэр-атрад.

9. Менск, Саюз Працаўнікоў Асьветы, Піонэр атраду.

## Да ведама атрадаў і піонэраў.

**Лісты, якія вы хочаце пераслаць замежным піонэрам (Нямеччына, Францыя і г. д.), трэба накіроўваць па адрасу: Масква, Цэнтральны Кітайскі праезд, 3, пад'езд 12, Цэнтральны піонэр.-габінэт (для чужаземнага аддзелу).**

**На лістох абавязкова наклейваць маркі.**

Менск, 1-я Дзярж. друк. Заказ № 1407. У ліку 2350+690 экз. Галоўлітбел № 24229.

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 3 м-цы . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.
„ 12 „ . . . 2 р. 40 к.

ДВОХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Пл. Волі, Наркамасьветы БССР.

**№ 3-4** | **ЛЮТЫ** | **1927 г.**

## Піонэр—таварыш дзецям рабочых і сялян усіх нацыянальнасьцяй.

Беларусь—старонка хаця невялікая, але ў ёй жыве шмат розных нацыянальнасьцяй: жывуць беларусы, расійцы, яўрэі, пялякі, латышы, літоўцы і іншыя, а калі ўзяць Саюз Савецкіх Рэспублік, дык нанацыянальнасьцяй у ім будзе разоў у дваццаць болей, чым на Беларусі.

Комсамол і піонэры, праводзячы працу сярод дзяцей, стараюцца, каб як найлепш абслужыць на роднай мове ўсіх дзяцей.

Як-жа мы праводзім, і як трэба праводзіць гэту працу?

У час організацыі атрадаў, піонэраў зацікавіла пытаньне, на якой-жа мове будзе працаваць атрад, калі ёсьць дзеці розных нацыянальнасьцяй?

Спачатку нашае працы таварышы ніяк не змаглі зразумець, як зрабіць так, каб усе дзеці маглі ў атрадзе гаварыць на роднай мове.

Былі такія таварышы—ёсьць яны яшчэ й цяпер—асабліва сярод неорганізаваных, калі дзеці яўрэяў недалюблівалі дзяцей беларусаў, а беларускія дзеці—яўрэйскіх.

Часта бывала так, што таварышы лаяліся паміж сабой. Быў такі выпадак, калі піонэры аднаго атраду пабілі піонэраў другога атраду.

Ну, як вы думаеце: добры гэта паступак альбо не?

Вядома, кожны піонэр адкажа, што паміж піонэрамі і дзяцьмі розных нацыянальнасьцяй трэба наладзіць таварыскую сувязь, а не разьбівацца паміж сабой.

І вось, паколькі ў нашых атрадах ёсьць дзеці розных нацыянальнасьцяй, то для гэтага організавалі зьвеньні, якія вядуць сваю працу на роднай мове. Ёсьць зьвеньні беларускія, яўрэйскія, польскія і іншыя.

Агульныя зборы атрадаў праводзім на беларускай мове. Кожны таварыш, які не навучыўся гаварыць пабеларуску, выказваецца на мове, якую ён добра ведае. Вось як мы вышлі з таго тупіка, які быў у пачатку нашае працы.

Піонэры розных нацыянальнасьцяй вывучаюць беларускую мову ў школах, бо ведаць беларускую мову ўсім нам патрэбна, жывучы ў краіне, дзе большасьць насельніцтва—беларусы. Ёсьць такія піонэры, якія не жадаюць вывучаць мову і ў школе зьяўляюцца апошнімі вучнямі.

Такія адносіны піонэраў, дзе яны ёсьць, вядома, нікуды ня варты, іх патрэбна зьнішчаць.

Апрача зьмешаных атрадаў, у якіх працуюць зьвеньні на розных мовах, ёсьць атрады, якія працуюць цалком на роднай мове.

Атрадамі, якія працуюць на розных мовах, організуюцца сумесныя вечары. Такія вечары патрэбна праводзіць усім атрадам. На такіх вечарох піонэры аднаго атраду пазнаёмяцца з піонэрамі другога атраду, завяжуць таварыскую сувязь. Гэткую сувязь павінен кожны атрад пашыраць.

Некаторыя атрады пасылаюць свае таварыскія лісты піонэрам Туркменістану, Узьбекістану, Масквы, Украіны, Ленінграду, Уралу, Нямеччыны, Польшчы і іншым; ад іх таксама атрымліваюць лісты.

Вельмі цікава, каб асобныя піонэры завязалі таварыскую перапіску паміж сабой. (У гэтым нумары зьмяшчаецца некалькі адрасоў тых піонэраў, якія хочуць завесьці асабістую перапіску).

Наладжваючы добрыя таварыскія адносіны ў атрадах, дапамагаючы ў працы адзін другому, трэба організаваць разам з усімі дзецьмі збор дапамогі галадуючым дзецям рабочых і сялян Заходняй Беларусі і Польшчы.

Вечары па збору дапамогі патрэбна організаваць у кожнай школе гораду, мястэчка й вёскі. Піонэры павінны быць першымі пачынальнікамі, організатарамі збору сярод нашых дзяцей на карысьць дзяцей Заходняй Беларусі і Польшчы.

*Організуем дапамогу галадуючым дзецям рабочых і сялян Заходняй Беларусі і Польшчы!*

**М. Адзінец.**

# Бяспрытульны.

Сёньня плача завіруха,
Кружыцца ў паветры,
Сьнег лятае мяккім пухам,
Ды бушуюць ветры.

Так бушуюць, што ніколі
Так не бушавалі,
І ляцяць у лес, у поле,
З гулам рэжуць далі.

Хто іх песьню зразумее
З дзікімі славамі,
Што з страшэнным гулам выюць
Злосна над палямі?

Бура толькі прытуліла
Хлопчыка малога.
І шаптала яму песьні,
Бо ня меў нікога...

Бура песьціла Ігната,
Песьні напявала,
Бо яго ня песьціў тата,
Маці ня люляла.

Не бадзёрылі Ігната
Летам кветкі ў полі,
Толькі думка маладая
Рвалася да волі.



Бяспрытульныя і піонэры. (Па малюнку Косьцяніцына).

Над калыскаю Ігната
Маці не стаяла,—
Гора песьціла малога,
Песьні напявала.

А ўсё плача завіруха,—
Хлопца прытуліла;
Плача злосна, вые глуха,
Як яшчэ ня выла...

Вучань **Ал. Розна.**

# Таварышы.

(Апавяданьне).

I.

Бываюць ночы залацістыя, ціхія, як шагі вартаўніка, бываюць ночы, калі неба расьсявае ў палёх срэбныя зоркі, і лес, у якім хаваюцца пагранічнікі, засыпае ціхім і спакойным сном...

Зразумела, усялякія ночы бываюць.

Гэта Якімка ведае добра.

Але яму патрэбна не такая ноч: яму патрэбна непагодлівая ноч, калі ў лесе дзіка шуміць і галосіць вецер, і дождж буйнымі кроплямі стукае па дрэвах, разганяючы сонную ціш, якая можа быць у іншую ноч.

О, Якімка ведае, навошта патрэбны яму вецер і дождж, і цемра...

Бяз усяго гэтага ня выканаць яму таго пляну, які даўно ім самім пабудаваны і які так трывожыць і вабіць яго, гэта значыць, ня ўбачыць яму зблізу такога-ж самага, як і ён, пастушка...

II.

Якімка зусім ня зьбіраецца перайсьці мяжу, каб набраць там якоганебудзь тавару і перанесьці незаконным парадкам. Не! У Якімкі на грудзёх значок Леніна. Якімка — піонэр.

Аднойчы, пасучы кароў ля самай граніцы, Якімка заўважыў на другім, польскім баку, такога-ж пастушка. Дзьве каровы яго пасьвіліся на краі ляска, а сам ён, распластаўшыся на траве і закінуўшы рукі за галаву, сьпяваў нешта сам праз сябе...

Слухаючы яго песьню, Якімка зразумеў, што пастушку таму вельмі і вельмі сумна, што яму хочацца плакаць, хочацца кінуцца на некага злоснага, сярдзітага ды біць яго... Але плакаць ён ня будзе, бо плачам гору не дапаможаш: як і раней, трэба будзе пасьвіць чужое быдла, як і раней, будзе сумам зьвінець песьня пастушка.

І такім зразумелым цяпер стала для Якімкі ўсё тое, аб чым нядаўна гутарыў павадыр на сходзе:

...„Ня думайце, таварышы, што дзеці буржуазных краін таксама вольна жывуць... Яны і ня маюць уяўленьня аб дазволеных рэволюцыйных сходах, а робяць гэткія дзе-небудзь у лесе, далёка ад вока пана... Наш абавязак усімі сіламі і мерамі дапамагаць ім: мы павінны сваёй дапамогай абнадзеіць іх, што тое лепшае, да чаго яны імкнуцца, сапраўды хутка настане!“

Так гаварыў павадыр. І вось Якімку захацелася сапраўды цяпер выканаць свой піонэрскі абавязак, парадаваць свайго таварыша, што жыве за мяжою... Яму хацелася, каб і ён, яго таварыш, ведаў аб іх атрадзе, аб Леніне і аб гэтым вось чырвоным значку...

Але як гэта зрабіць?

Кінуць яму значок—не даляціць. Падыйсьці бліжэй ня можна,—ня пусьцяць.

Што-ж тут прыдумаць?

І ў галаве Якімкі зьявіўся цэлы плян пераходу на той бок мяжы, у Польшчу, і зрабіць гэта, зразумела, у бурную непагодную ноч...

. . . . . . .

У шагох ста ад „пляцоўкі" была лагчына, над якой высілася чорная, абгарэўшая хвойка. Яе стан сагнуты, як сьпіна бабулі, а гольлі падобны на худыя касьцістыя рукі, спушчаныя ўніз.



Якімка, ціха азіраючыся, перадае свайму таварышу значок.

Лагчына гэта была самым добрым месцам для спатканьня. Ідучы да яе, трэба будзе пералезьці праз тры рады дротавага загарадзьдзя. Гэта й добра! Патрулі за такімі месцамі ня лішне ўглядаюцца,—кот не пралезе...

Знакам папрасіў Якімка свайго таварыша падыйсьці да лагчыны. Калі той зрабіў гэта, Якімка крыкнуў:

— У бурлівую ноч... чакай ля хвоі...

— У-гу-гу...—падхапіла рэха словы Якімкі і занесла іх недзе далёка, далёка назад.

III.

Якімкавы каровы непакоіліся, гізавалі і раўлі, не перастаючы адганяць ад сябе спрытных і надаедных мух... Але Якімка гэтаму быў рад. Ён ізноў убачыў на тым баку свайго таварыша,—той матнуў Якімку рукой.

Увечары на небе зьявіліся афарбаваныя ў медны колер хмары. Грымела... Ноч будзе непагодлівая, цёмная...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О, як хочацца Якімку стаць маленькім, малюсенечкім, падобным да пылінкі, зьліцца з зямлёй, каб ніхто яго не заўважыў. Ён быў-бы тады ўпэўнены, што значок Леніна будзе вісець на грудзёх яго таварыша, што таварышу яго ласкава будуць усьміхацца прыжмураныя вочы Ільліча. Але Якімка—ня пылінка, і яму прыходзіцца паўзьці на руках, прыслухоўвацца. Якімка папоўз... Раптам—спужаўся... наперадзе штосьці высілася чорнае, страшнае. Але тут-жа Якімка здагадаўся, што гэта абгарэўшая хвойка.

Таварыш Якімкі таксама тут. Яны ціснуць адзін другому рукі. Якімка ціха, азіраючыся, перадае свайму таварышу значок. Якімка бачыць, як худзенькі твар гэтага пастушка расплываецца мілай усьмешкай, як ён пільна захоўвае ў кішэні чырвоны значок.

Бурная ноч здалася для Якімкі сонечным пагодным днём, плач ветра—сьпевам аржаных загонаў.

Назад Якімку йзноў прышлося пералазіць праз калючы дрот. Боты яго цяпер былі мокрымі і сьлізкімі. Якімка нарабіў шуму... Спужаўся. Думаў—вось закрычыць:

— Стой, пся!..

Але навокал усё паранейшаму: то сумныя, то разгульныя песьні ветра і скрыпы хвоек. Холадна. Дождж барабаніць па сьпіне, залівае вочы і шыю...

Але што значыць гэты холад і дождж, калі таварыш Якімкі будзе бачыць твар гэтага дарагога для ўсіх нас дзядулі Ільліча, будзе шчыра прыціскаць яго да зрэбнай сваёй кашулі, будзе ведаць аб яго заветах моладзі і змагацца, моцна і ўпарта змагацца, каб іх выканаць.

**Ул. Палякоў.**

# Ідзі спаткаці рань.

*(З жыцьця Заходняй Беларусі).*

Ой, ты, моладасьць,—
Сілы сьвежыя!
Дні юнацкія,
Дні мяцежныя...

Прабягаюць дні
Навальніцамі,
Туман сьцелецца
Над крыніцаю.

А усход гарыць
Залатым агнём:
Ноч зьмянілась там
Днём, вясёлым днём.

А ў нас вось тут
Хмары сьцелюцца:
Ой, раве, гудзе
Тут мяцеліца.

Абхінула ўсё
Хусткай чорнаю
Хмара змрочная,
Непакорная.

Ой, ты, моладасьць,—
Дні юнацкія!
Песьні буйныя,
Гайдамацкія!

Зашумі, як клён,
Зазьвіні, як звон:
Ідзі, моладасьць—
Раць стальных калён!

Ідзі спаткаці рань,
Долю новую,
Маладая раць,—
Моц сталёвая!

**М. Багунец.**




# Будзь гатоў!

**П'еса ў 4-х актах з жыцьця і барацьбы комсамолу і дзяцей Нямеччыны.**

**Хто прымае ўдзел.**

ВІЛЬЛІ—14 гадоў, бяспрытульны.
АЛЯ—яго сястра, 10 гадоў, таксама бяспрытульная.
1-шы ХЛОПЧЫК, гадоў 12-ці
2-гі ХЛОПЧЫК—14 гадоў } бяспрытульныя.
ДЗЯЎЧЫНКА—12 гадоў
МАРГАРЫТА—комсамолка, 18 г., кіраўнічка дзіцячага прытулку.
АМАЛІЯ КАРЛАЎНА—таксама кіраўнічка дзіцячага прытулку.
ШПІЁН—22 гадоў.
СЬЛЕДАВАЦЕЛЬ—40 гадоў.
Гаспадар пякарні, натаўп людзей і інш.

**Акт 1-шы.**

Сцэна ўяўляе з сябе вуліцу гарадзкое акраіны. Здалёку відаць фабрыкі і заводы.

ЗЬЯВА 1-я.

На сцэне бяспрытульныя.

1-шы хлопчык (да другога): Смаркач, сядай хутчэй, народ ідзе, ану і „падстрэлім“ што-небудзь.

2-гі хлопчык: Але... зараз, зараз (садзіцца і прытвараецца сьляпым, жаласьліва сьпявае): Падайце сьляпенькаму калеку, людцы добрыя... (Праходзіць пекар). Падайце на кавалачак хлеба...

Пекар: Шмат вас тут цягаецца. Разьвялося дабра гэтага (праходзіць).

2-гі хлопчык (ускочыўшы): Сабака пузаты, яшчэ лаецца, ну пачакай-жа ты ў мяне...

1-шы хлопчык: Ціха, смаркач, ідуць. (Той ізноў паўтарае сваё).

Рабочы (праходзячы): Эх, бедныя мае, цяжка вам, што-ж з вамі рабіць, аддам ужо вам апошнюю поўмарку. Ну, нічога, наце, дзеткі, (аддае), купеце сабе хлеба,—чым багаты, тым і рады. (Выходзіць).

2-гі хлопчык (ускочыўшы): Бачыў, як лоўка... цэлую палову маркі выхапіў.

1-шы хлопчык: Ай ды, смаркач, маладзец ты ў мяне, дзялі папалам і айда ў пякарню.

2-гі хлопчык: А дулю ты ня хочаш... Сам зарабі. Хто ня робіць, той і ня есьць. (Выбягае).

1-шы хлопчык (за ім): Гэй, смаркач, аддай, а то біць буду. (Выбягае).

Вільлі (прыхіліўшыся да сястры, каб адагрэцца): Аля, табе сьцюдзёна? Вось вазьмі маю сьвітку. (Падае ёй).

Аля: Не... не... Вільлі, ня трэба, мне цёпла... Цёпла...

Вільлі: Ты ня хочаш прызнацца, Аля—табе сьцюдзёна: ты ўся дрыжыш... Дзе-ж толькі прыдзецца начаваць нам, няўжо ізноў на вуліцы... Сёньня такі пракляты холад, да касьці даймае...

Аля: Вільлі, я есьці хачу... у мяне галава баліць ад голаду. Мы-ж з учарашняга дня нічога ня елі... Цяпер нам хоць-бы які-небудзь агрызачак дастаць...

Вільлі: Дый шклянку гарачай вады... як было-б гэта добра!..

Аля: А памятаеш, Вільлі, калі тата з мамай былі ў нас?.. Бывала, чакаем бацьку з фабрыкі, на стале гарачы, гарачы булён... а пасьля, а пасьля яшчэ і яшчэ...

Вільлі: Кофе... самае сапраўднае кофе... Эх, добрыя былі часы! А цяпер... Аля, я прыдумаў, я ўжо дастаў хлеба... толькі адну хвілінку цярпеньня. Вось там недалёчка пякарня, а ў пякарні шмат, шмат, шмат булак і розных агрызкаў, дык я вось іх і прынясу... Я зараз, Аля!



У турму за булачку!..

Аля: Вільлі, я баюся... цябе паб'юць...

Вільлі: О, я ўцяку... ну, я пабег.

(Убягаюць 1-шы і 2-гі хлопчыкі).

2-гі хлопчык (сьпявае): Гіндзенбург, Гіндзенбург, птушачка, канарэечка жаласна пяе... Эй, ты (крычыць да другога), давай намалюем Гіндзенбурга?..

1-шы хлопчык: Давай, толькі з каронай. (Малююць).

2-гі хлопчык: А навошта карону?—ён-жа не кароль.

1-шы хлопчык: Ну, мерыцца стаць ім, а гэта ўсё роўна... Гатова. Глядзі, якія ў яго вусы.

2-гі хлопчык: Волас доўгі, ды розум кароткі. Ха-ха-ха...(Выбягаюць).

(Чуваць шум, уводзяць Вільлі).

Аля: Вільлі, Вільлі!..

Пекар: А-а! папаўся, галубок, цяпер не ўцячэш!

Вільлі: Пусьцеце мяне, пусьцеце!.. (Вырываецца і кусае за рукі пекара)

Пекар: А-а!.. дык ты гэтак, вось табе, вось табе! (Б'е яго). Беце яго...

Аля: Вільлі, Вільлі... (Плача).

(Уваходзіць Маргарыта).

Маргарыта: Што тут такое? Каго вы б'яце? (Убачыўшы). Як вы асьмеліліся!.. Як вам ня брыдка... пусьцеце яго... (Той адпускае). Нічога, нічога, мой хлопчык, я ня дам цябе ў крыўду ім, ня бойся... Бачыш, як пабілі цябе... Увесь на сінякох. Эх, вы, бяздушныя людзі, няўжо ў вас спачуваньня няма да галоднага дзіцяці! Біць уздумалі за агрызак хлеба.

Пекар: Ён украў у мяне цэлую булачку, у турму яго трэба...

Маргарыта: У турму за булачку!.. Падумайце, што вы гаворыце. Вось вам грошы на 10 такіх булак, толькі пакіньце нас і выйдзіце адгэтуль.

Пекар (бярэ): Так то так. Ды я што, я пажартаваў... Даруйце.. (Выходзіць задаволены грашыма).

Вільлі (кідаецца да Алі): Ня плач, ня плач, Аля, я жыў і здароў, а булку я ўсё-ж такі прынёс... на, еж. (Дастае з-за пазухі).

Маргарыта: Якое моцнае каханьне брата, бедныя, бедныя дзеці!

Вільлі: Дзякуем, шчыра дзякуем вам, паненачка, каб ня вы, ня жыць-бы мне на гэтым сьвеце. (Хоча пацалаваць у руку).

Маргарыта: Ня трэба, ня трэба, коцік... Раскажэце мне лепш, хто ваш бацька і маці, і дзе яны?

Вільлі: У нас нікога няма. Бацька быў рабочым. За забастоўку яго пасадзілі ў турму, адкуль ён уцякаў і быў па дарозе забіты... Маці памерла з гора... А мы, мы вось засталіся адны.

Маргарыта: Бедныя, дзеткі, мне шкода вас. Пойдзем са мной, я вас завяду ў дзіцячы прытулак. Там вам будзе лепш. Ну, як, згодны?

Вільлі: Паненачка, няўжо гэта праўда, няўжо?

Маргарыта: Так, так, праўда.

Вільлі: І начаваць будзем там?

Маргарыта: І начаваць будзеце там.

Вільлі: І есьці, і працаваць?

Маргарыта: Усё будзе там.

Вільлі: Як гэта добра... Аля, мы будзем у цяпле там жыць і працаваць... Дзякуем вам, дзякуем...

Маргарыта: Ну, а цяпер пойдзем, дзеці.

Вільлі (накульгваючы): Булён будзем есьці гарачы.

Аля: І біць нас ніхто, ніхто ня будзе!

(Заслона).

## Акт 2-гі.

Сцэна ўяўляе клясны пакой дзіцячага прытулку. Налева, бліжэй да авансцэны, кафэдра.

Дзеці займаюцца працай: дзяўчаткі вышываюць, хлопцы чытаюць.

### ЗЬЯВА 1-я.

Амалія: Ах, ты, гадкае шчанё, усю паперу сапсавала мне... у-у, чаго вылупіла яблыкі свае... Застанешся сёньня без абеду і чаю. (Тая плача). Ты яшчэ плачаш?.. вось табе, вось табе. (Б'е).

Вільлі (падбягаючы): Ня рушце яе, як вы асьмельваецеся яе біць, яна-ж не сабака. (Тая кідае).

Амалія: А-а! адвакат знайшоўся! Малайчына ты ў мяне гэтакі... уф... няма чаго сказаць. А хто адказваць за яе будзе, ты ці што, валачашчы ты гэткі? Кармілі, кармілі яго, а ён, як быў злодзеем, так і застаўся ім.

Вільлі: Я больш ня буду мяшаць вам... Сёньня-ж мы пойдзем... і даўно-б пайшлі, ды толькі цётку Маргарыту пакідаць шкада. Пойдзем, Аля, ня плач...

Амалія: Ах, ты гадкі гэткі... Ты яшчэ сварыцца будзеш! Я ў карцар пасаджу цябе, злодзея. (Уваходзіць Маргарыта). Я цябе...

Маргарыта: Ад чаго гэта ў вас такі шум? Амалія Карлаўна, ізноў вы распачалі ўжываць свае меры ў выхаваньні...

Усе дзеці: Цётка Маргарыта, цётка Маргарыта!..

Маргарыта: Добры дзень, добры дзень, дзеці! А чаму-ж гэта Аля плакала, чаму ў цябе вочкі заплаканы, нядобрыя, чырвоныя? Ну, ад чаго плачаш, дзіцятка? Вільлі, што з ёй?..

Вільлі: Цётка Маргарыта, мы адыходзім ад вас.

Маргарыта: Куды йдзеце? Як? Чаму?



На гэты раз я не падману вас, мой мілы...

Вільлі: Нам цяжка з вамі растацца... Вы так любіце нас, а мы вас таксама, але гора прымушае. Лепш быць галодным, чым кожны дзень чуць ад яе нараканьні і мецъ пабоі...

Маргарыта: Вас б'юць? І гэта вы, Амалія Карлаўна? Няўжо гэта праўда?

Амалія: Ахвота вам слухаць брахню ўсялякую гэтых брадзягаў

Маргарыта: Яны не брадзягі, а добрыя, разумныя дзеці з рабочай сям'і. І тое, аб чым яны кажуць, я ім веру. Вам быць такой у адносінах да гэтых бедных дзяцей нізка і брыдка.

Амалія: Прашу, калі ласка, без указаньняў, я старэйшая ад вас, і за кожнага злодзея плакаць ня буду. (Выходзіць).

Маргарыта: Мілыя мае, няўжо вы кінеце сваю цётку Маргарыту.

Аля: Цётка Маргарыта, цётка Маргарыта, мы любім вас. Усе! Усе!

Усе: Так, так,—усе!

Маргарыта: Дзякую, дзякую вам, дзеці, трошку пацярпеце... усё пераменіцца на лепшае. Вы чыталі ліст ад савецкіх піонэраў. Памятаеце, яны пісалі, што і ім дрэнна было, а калі ўзялі рабочыя і сяляне ўладу ў свае рукі, дык і ўсім стала добра жыць. І яны ўсе цяпер піонэры.

Вільлі: Эх, хутчэй-бы піонэрамі стаць настаяшчымі!

Маргарыта: Пачакайце, дзеці. Усе будзеце піонэрамі, ды яшчэ якімі... Ну, а цяпер ідзеце пагуляйце па садзе, дзеці, я ўвечары прыду... Бывайце, дзеці!.. Аля, да пабачэньня. (Цалуе Алю і выходзіць з усімі, апрача Вільлі і Алі).

Аля: Якая добрая цётка Маргарыта! Каб я была вялікай, я-б усё, усё зрабіла, абы цётцы Маргарыце было добра.

Вільлі: Стой, ціха, нехта йдзе... гэта Амалія Карлаўна, давай схаваемся.

(Уваходзіць Амалія і шпіён).

Шпіён: Ах, Амалія Карлаўна, я трачу ўсялякае спадзяваньне на вашу дапамогу, вы ўсё дакляруеце, дакляруеце, і нічога з гэтага ня выходзіць. Колькі разоў вы абманвалі мяне...

Амалія: На гэты раз я не падману вас, мой мілы. Сёньня ў яе на кватэры будзе сход усіх комсамольцаў. Усе пляны, паперы сакрэтныя ў яе знаходзяцца. Гэта справа вельмі важная. Праз гадзіну ў іх пачнецца сход. Вы бачылі, як яна сьпяшалася. А вось да рэчы пісулька... я выцягнула ў яе з кішэні, чытайце.

Шпіён: Амалія Карлаўна, я вам вельмі ўдзячан! Дзякую, дзякую вас. (Цісьне яе руку). Ну, а цяпер трэба хутчэй сьпяшацца. Бягу ў паліцэйскую ўправу. Праз поўгадзіны іх дом будзе абкружаны...

Амалія: Ідзеце, ідзеце. (Праводзіць і сама выходзіць).

Вільлі (ціха): Ты чула... цётцы Маргарыце пагражае небясьпека, яе арыштуюць. Што рабіць?

Аля: Арыштуюць... Бедная цётка Маргарыта. (Плача).

Вільлі: Стой, ня плач, цяпер ня час гэтым займацца, трэба што-небудзь прыдумаць... Зараз-жа бяжым да цёткі Маргарыты і ўсё, усё раскажам ёй... хутчэй, хутчэй праз вакно... (Падбягаюць да вакна).

Аля! Ах, як высока!

Вільлі: Нічога, трэба быць настаяшчымі піонэрамі. (Пераскаквае).

*Заслона.*

(Канец будзе).

**Благамыслаў.**




Маленькі яшчэ хлопчык Пятручок. Валаскі чорныя, вочкі чорненькія, зусім, як жучок. Як жучок і поўзае: у кожную шчылінку прашчэміцца. Тут быў, тут няма.

Тры гады толькі перад Новым годам ён скончыў, стол перарос і шнырыць усюды.

Пакінула яго маці ў хаце. „Сядзі,— кажа,—не чапай нічога, на вуліцу ня вылазь, бо брудна яшчэ дужа пасьля ўчарашняга дождж у. Сядзі,— кажа,—а я скоранька вярнуся, мёдам табе хлебка памажу". І пайшла на агароды: садзіць там нешта будзе.

Хто-ж гэта ўцерпіць адзін сядзець ў хаце, калі на дварэ так ясна, так вясёла!

Падняўся на дыбачкі Пятручок, дастаў рукою клямку, паляпаў, паляпаў, пацісную дзьверы; дзьверы паддаліся, зрабілася шчылінка, цераз якую працісьнуўся хлопчык.

Ой, і добра-ж на панадворку. Сонца сьвеціць, грэе, сьлепіць вочы. Вераб'і, шпакі проста падурнелі: крычаць, зьвіняць, латашацца, а пер'е з іх сыплецца. Гразі тэй — толькі званьня: дзе-ні-дзе толькі лужынкі асталіся.

— Тут буду гуляць, — вырашае малы.—Не пайду на вуліцу.

Босымі ножкамі цягнецца ён да лужынкі. Мочыць спачатку пальцы на нагах, потым усёй нагой сьлізгаецца па дну, муціць ваду, падымаючы пальцамі гразь са дна лужыны. Пакуль усе лужыны абышоў,— абрыдла гэткая работа. Ці няма чаго цікавейшага?

Зірнуў туды-сюды.

Пад паветкаю, на ўзгорачку, на сухім месцы, куды і сонца дастае, прытулілася курыца з сваім вывадкам. Сядзіць распусьціўшы пер'е, схавала пад сябе сваіх малых, такіх-жа непаседлівых, як Пятручок. Увесь час ні сабе, ні матцы спакою не даюць. То той, то той з-пад крыльля выцісьнецца, на сьпіну к матцы лезе. Сварыцца і просіць іх курыца слухацца, квохкае то ласкавенька, то бурчыць, як сабака які.

Зацікавіўся маладой сям'ёй Пятручок. Так захацелася яму, малому, пагуляць з маленькімі піскляткамі.

Хітры ён хлапчук. Разумее, што калі пабяжыць раптоўна да курыцы, яна ўсхопіцца і ўцячэ з усёй сваёй сям'ёю. Ці-ж яму дагнаць яе?

Паціхеньку падходзіць ён. Курыца і бачыць яго, ды ёй і ня ў галаве, што такога жука яшчэ трэба баяцца. Кырхнула на яго троху, калі зусім блізка падсуседзіўся хлопчык.

Ён рукамі не махае, цягне руку павольна пад крыло кураводніцы. Дастаў адно маленькае беленькае пісклянё, пацешыўся з яго, ды тут і другое хочацца дастаць.

Пасадзіў першае на зямлю, далонкай зьлёгку прыціснуў, палез па другое. Пакуль справіўся, глядзіць: уцякло першае пісклянё.

Ї ўсё так. Дастане, пасадзіць, насварыцца як, бывае, матка на яго: „сядзі, сядзі, ато дам я табе“,—ня слухаюцца яго пісклята, уцякаюць пад крыльле квактухі.

Узлаваўся Пятручок.

— Будзеш, будзеш сядзець?!!

Як схапіў цяпер адно абедзьвюма ручкамі, галоўку яму падкруціў... Не трапечацца пісклянё, ляжыць галоўку адкінуўшы. Добры грудок піскляг паклаў хлопчык, а курыца, дурная, толькі кырхне і сядзіць, як у зямлю ўліпшы, не бароніць сваіх дзяцей.

Цешыцца Пятручок, не ўцякаюць больш піскляткі, ножкамі толькі каторы таргане; гладзіць іх ручкамі хлопчык, пільна-пільна ў іх углядаецца.

Аж раптам нехта балюча шлоп-шлоп па галаве, па плячох. Гэта сястра Верка каршуном на свайго малога брата наскочыла.

— Ах, ты, кацянё дурное! Усіх пісклят перавёў!—і, як-бы ён быў запраўды малым кацянём, падняла яго за карак і ўкінула ў хату. Хату знадворку зашчапіла на клямку і палачкай заторкнула.

Плача ў хаце Пятручок. Ціха хліпае. Ї сам ужо ня рад сваёй гульні; і маткі страх, і пісклятак маленькіх шкода: „бо бегаць больш ня будуць“,—казала Верка.

Верка недзе разьмінулася з маткай, і тая ўвайшла ў хату, нічога ня ведаючы аб Пятручковых штуках.

Падзівілася маці, хто дзьверы ў хату зашчапіў, увайшла і гукнула сынка:

— Ці ты тут, сынок?

Пятручок маўчаў і хліпаў.

— Чаго ты плачаш, верабейка мой маленькі? Хто цябе запёр у хаце?

— Ай, дам я гэтай Верцы, катка майго маленькага крыўдзіць! Хадзі, пашкадую цябе.




Як схапіў цяпер адно абедзьвюма ручкамі, галоўку яму падкруціў.

Але хлопчык ня йшоў. Чуў, што ня варты матчынай ласкі, а прызнавацца ў шкодзе не хацелася.

Маці падышла да яго ў куточак, дзе ён сядзеў, абцёрла яму сьлёзкі, узбаранавала пальцамі валаскі на галаве.

— Песьці, мама, песьці гэтага дуроньніка. Усіх пісклят табе перадушыў, а ты яго шкадуеш!—падкруцілася ў хату і Верка.

— Якіх пісклят?

— Ідзі, глянь, глянь пад паветку!

Выбеглі абедзьве.

Прыдушаныя піскляты троху прышлі да памяці, толькі адзін без пары кончыў жыцьцё.

Прывяла матка Пятручка да няжывога піскляначка. Пытаецца ў сына.

— Каторая ручка гэта зрабіла?

— Гэта,—працягнуў пальчыкі сын.

— Нашлёпай яе сам, сынок. Няхай шкоды ня робіць. Добра ёй накажы, няхай дзьвярэй не адчыняе. Ато адчыніла ручка дзьверы, вылез ты з хаты і бяды нарабіў.




Нашлёпаў сваю ручку Пятручок...

Нашлёпаў сваю ручку Пятручок, піскляначка няжывога пажалеў, сьлёзкі абцёр і пацягнуўся за маткай на агарод, памагаць ёй буракі садзіць.

Невялікі з яго памоцнік: ножкамі баразёнку прытаптывае, каб раўней усім хадзіць было. Але работа гэтая вымагае ад яго самай пільнай увагі. Трэба глядзець, каб не заваліцца на край грады ды не папсаваць ужо матчынай работы.

Пакуль маці справілася, чыста замарыўся хлопчык і есьцікі дужа захацеў, дамоў запрасіўся.

Пакарміла яго маці ў хаце, павесялеў хлопчык, гуляе добра.

Пакуль той доўгі веснавы дзень разам з сонцам за лес схаваецца, можа ня раз яшчэ наробіць клопату малышок. Ці ён вінаваты, што за работай няма нікому часу за ім дагледзець?

**Л. Чарняўская.**

# НАВУКА—ПРЫРОДА—ТЭХНІКА.

## Расьліны зімою.

Зімою зямля зьверху вельмі моцна замярзае, а разам з ёю замярзаюць і расьліны. Мароз узімку не дастае карэньняў толькі тых расьлін, якія запускаюць гэтыя карэньні глыбока ў зямлю. Дробныя расьліны, як трава, жыта, замарожваюцца разам з карэньнямі. Калі-ж настане вясна, дробныя расьлінкі (трава, жыта і інш.) хутчэй за дрэвы пачынаюць зелянець, расьці і цьвісьці. Значыць, лютыя зімовыя марозы не пашкодзілі ім.

Цікава, чаму ўсё-ж такі расьліны не загінулі ад марозу?

Каб мароз ня шкодзіў расьлінам, яны расьлі-б і зімою, але-ж выходзіць наадварот; значыць, мароз ім шкодзіць. Ня толькі травы, але ўсе расьліны баяцца холаду. Многія з расьлін, галоўным чынам, тыя, якія растуць у нас, прызвычаіліся і могуць пераносіць вельмі вялікія халады. Возьмем к прыкладу жыта. Яно баіцца марозу, але замарозіць яго да сьмерці могуць толькі вялікія маразы, ня менш 25-ці градусаў. Зразумела, што такіх маразоў пад сьнегам ня бывае, бо зямля ў сярэдзіне цёплая, і частка гэтай цяплыні вылучаецца на паверхню. Апрача гэтага, і сам сьнег не прапускае холаду да зямлі. Здараюцца такія зімы, што ня бывае сьнегу, тады пры вялікіх маразох жыта вымярзае і ўжо вясною не расьце.

У замёрзлай зямлі часта холаду бывае ўжо ня так многа, там марозу ня больш за дзесяць градусаў, а дзесяць градусаў холаду жыта і іншыя расьліны лёгка пераносяць.

Праўда, ня ўсе расьліны могуць пераносіць дзесяць градусаў марозу, некаторыя з іх гінуць з сваімі карэньнямі нават пры меншым марозе, але затое такія расьліны летам стараюцца раскідаць як мага больш насеньня. Насеньне ўсіх расьлін холаду не баіцца, яно можа перажываць самыя вялікія маразы. У лябораторыях штучным парадкам стваралі холад ніжэй нуля на дзьвесьце градусаў, клалі туды зярняты і аказалася, што, пабыўшы ў такім холадзе, зярняты ўсё-ж такі ўзыходзілі. Бязумоўна, у нашых мясцовасьцях марозу ў дзьвесьце градусаў нідзе няма, а самыя-ж большыя марозы каля нас, напр., у Сібіры, бываюць у 40—45 градусаў, а пад сьнегам гэтыя марозы яшчэ меншыя. Такім парадкам, хоць расьліна сама часам і гіне ад марозу, але яе насеньне застаецца.

Расьліна пад сьнегам, бязумоўна, не расьце, яна не бярэ сокаў з зямлі і тлену з паветра, яна жывіцца тым матар'ялам, які прызапашаны ў яе організьме летам. Гэты матар'ял яна расходуе патрошку з такім разрахункам, каб яго хапіла на ўсю зіму. Таксама за кошт запасаў, якія маюцца ў організьме, жывуць зімою і некаторыя жывёлы, напрыклад, вужы, жабы, мядзьведзі, кузуркі і іншыя. Яны цэлую зіму, захаваўшыся далей ад марозу, нічога не ядуць, а жывуць толькі тым, што прызапасілі за лета.

Свае пупышкі, з якіх вясною павінны вырасьці лісты і кветкі, яны

захоўваюць у абалонкі, праз якія мароз не заходзіць.

Дзякуючы гэтаму, пупышкі ня мерзнуць. Бываюць часам такія выпадкі, калі мароз адмарожвае верхавіны некаторых дрэў, але такія выпадкі здараюцца рэдка. Дрэва вельмі турбуецца аб тым, каб на зіму захаваць сябе і сваё патомства. Тыя дрэвы, якія не перанясуць марозаў, бязумоўна, згінуць, а іх месца займуць новыя маладыя, якія будуць умець пераносіць марозы.

Здольнасьць пераносіць марозы дрэвы і расьліны набылі сабе не адразу. Яны да гэтага прызвычайваліся цэлыя дзесяткі тысяч год, а тыя, якія ня ўмелі прызвычаіцца да нашага клімату, павінны былі вымерці. Прадстаўнікі-ж гэтых вымершых расьлін жывуць толькі ў цёплых краінах.

Каб лепш нам зразумець, у чым складаецца прызвычайваньне расьліны да клімату, возьмем к прыкладу нашае жыта. Яно да нас занесена з цёплых краін. У цёплых краінах зімы няма і там жыта не ляжыць пад сьнегам; яно праз трычатыры месяцы пасьля засеву гатова для таго, каб жаць. У нас-жа, калі тое жыта, якое сеюць у восень, пасеяць вясною, яно будзе цэлае лета зелянець і зелянець, а к восені ўсё-ж такі ня дасьць каласоў. Яно ўжо, бачыце, прывыкла да таго, каб яго добра прамарозіў мароз. Вось дзеля чаго, калі яго пасеюць вясною, яно ўвесь час якбы чакае марозу і ня вырашчвае каласоў. Але калі ўзяць гэтыя-ж самыя зярняткі жыта і пасеяць у гаршкох, якія можна некаторы час патрымаць у лядоўні пасьля ўзыходу зярнят, жыта пачне расьці і дасьць к восені каласы з зярнятамі. Гэтыя новыя зярняты, калі іх пасеяць, запатрабуюць ужо менш марозу для таго, каб вырасьці і сасьпець і г. д.

Сёмае і далейшыя патомствы вырастуць ужо зусім без марожаньня. Вось такім парадкам і вывелі яравое жыта, гэта значыць такое, што сеюць вясною. Мы зараз разгледзелі прыклад, як жыта прызвычайваецца расьці ў адно лета, але такім-жа парадкам яно прызвычайвалася і зімаваць. Спачатку гінулі многія зярняты, перазімоўвалі толькі нямногія, ды і гэтыя нямногія былі ня надта дужыя, але паступова яны прывыклі да нашага клімату і пачалі добра расьці.

Паглядзім, як прызвычайваюцца дрэвы. Возьмем к прыкладу ядловец. Расьліна гэтая падобна на елку, у нашых лясох расьце ў малой колькасьці. Наш клімат халодны для яе. У Турэччыне, дзе зімы амаль ня бывае, гэтая расьліна складае цэлыя дубровы. Калі ўзяць зярняты ад тых ядлаўцоў, што растуць у цёплых краінах, ды пасадзіць у нас, яны, бадай што, і ня вырастуць. Наш клімат будзе для іх халодным. Калі-ж мы на першай няўдачы ня спынімся, а пачнем садзіць іх многа, то сярод іх знойдуцца такія, якія вырастуць і паступова прывыкнуць да нашага клімату, і ўжо патомства ад гэтых ядлаўцоў нашага клімату баяцца ня будзе. Такім парадкам, расьліна прызвычайваецца пераносіць марозы, так, як прызвычайваюцца іх пераносіць жывёлы і чалавек.

**Я. Кіпель.**

# Там, дзе здабываецца сьвятло.

*(На Менскай электрастанцыі).*

Уужо падыходзячы да электра-станцыі чуваць, як з вялікіх вокан яе цягнецца зычны гул. Паветра дрыжыць, навокал стаіць гоман. Праходжу вялікі двор з раскінутымі на ім ваганэткамі, часткамі старых машын, вялізнымі „катушкамі“ ад правадоў.

Кацёльны цэх. Вось адкуль бярэ свой пачатак электрычнасьць! Сюды на бясконцавых рэйках безперапынку падвозіцца торф — корм катлам. Апошні здабываецца на Цнянскіх тарфяніках, якія знаходзяцца ў 12 вярстох ад Менску. З грохатам, разьбіваючыся на часткі, сыплецца ў вечна пражорлівыя топкі торф. У топках мігаціць агонь, які ператварае ваду ў пару, у тую паветраную празрыстую пару, якая імкнецца па трубах у паравыя турбіны.



Выгляд часткі Менскай электрастанцыі знутры.

* * *

Вялізная заля з чыстай каменнай падлогай. І побач, быццам пастроіўшыся на парад, стаяць стройныя сталёвыя гіганты-машыны. Гэта турбіны і дызэлі з моцаю да 2.000 кон. сіл. З страшэннай хуткасьцю круціць сваім напорам пара цяжкія колы машын, а разам з ім і вал. Канец валу здаецца зусім нярухомым,— здаецца, ён стаіць на месцы. Але ня верце яму! Вал круціцца з непамернаю сілаю—да 3 тысяч зваротаў у адну хвіліну.

І вось у такім жудасным вярчэньні, ад нязвычайна хуткага руху між сабой мэханізмаў і ўзьнікае электрычны ток. Турбіна крыху ўздрыгвае, каля яе страшна стаяць, калі ведаеш, што ў ёй мігаціцца маланка, тая маланка, якую цяпер чалавек скаваў сталёвымі правадамі, перамог і пусьціў у машыны! Зьнізу ад турбіны адыходзяць медныя палосы. Па іх ідзе яшчэ неспакойны, бурны ток з незразумелай для нас сілаю — у тысячы вольт.

* * *

Гэты страшны тысячавольтавы ток праходзіць асобныя, „паніжаючыя сілу“, машыны. Інакш ён мог-бы спаліць усе правады, узарваць лямпачкі. Тут ён робіцца слабейшымі разыходзіцца па правадох-кабэлях. Разьмеркаваньне яго па кабэлях адбываецца наверсе, на асобным бальконе, дзе разьмешчаны мармуровыя дошкі—„пульты“,—праз якія ўжо аслабеўшы і роўнаважны ток льлецца па мядзяных правадох пад зямлю і адтуль ідзе к дзесяткам трансформатарных будак, раскінутых па ўсяму гораду. Кожная такая будка абслугоўвае свой раён, запальвае тысячы лямпачак роўным мяккім сьветам, а мясцамі прыводзіць у рух нашы фабрыкі і заводы.

**А. Тычына.**




# Як жывецца рабочым дзецям у Нямеччыне.

### Жыцьцё дзяцей у сям'і.

Вось што піша адна з нямецкіх дзіцячых комуністычных груп расійскім піонэрам:

„Дарагія таварышы! Вы ня можаце сабе ўявіць, як дрэнна жывецца ў нас рабочым дзецям. Шмат хто з нас сам зарабляе сабе на кавалак хлеба. Улетку мы зарабляем грошы шуканьнем ягад: у часе вакацый мы выходзім з хаты а 6-й гадзіне раніцы ў лес і зьвяртаемся дахаты вечарам, стомленыя, потым гэтыя ягады прадаем у горадзе па 40 фэнігаў за літар. Увосень мы за невялічкія грошы павінны цэлы дзень выкапваць бульбу. Так як вугаль для рабочай сям'і занадта дарагі, мы павінны загатаўляць на зіму дровы, прыносячы іх здалёку.

*Мы павінны мець сваю савецкую рэспубліку як у вас, тады і дзецям рабочых стане лепш. Будзьце гатовы!*"

Гэты ліст лепей усякіх апавяданьняў яскрава малюе тое дрэннае становішча, у якім знаходзяцца нашыя нямецкія таварышы.

### На заробках у вёсцы.

Часта бывае, што бацькі ня маюць магчымасьці нават кепска ўтрымліваць сваіх дзяцей, тады апошнія ідуць на заробкі, ідуць у вёску ў якасьці парабкоў.

Група з чатырох хлопчыкаў была паслана на працу да кулака. Той абяцаў ім плаціць па марцы ў дзень (марка—50 кап.), але абяцанага ня выканаў і бязьлітасна хлапцоў эксплёатаваў.

Штодзенна яны працавалі па 12 гадзін... Калі-ж яны не маглі больш выносіць гэткае эксплёатацыі, парашылі паехаць і патрабавалі абяцанай узнагароды, гаспадар стаў іх злосна лаяць і ня даў грошай.

Гэта толькі адзін з шматлікавых фактаў эксплёатацыі дзяцей вясковымі кулакамі.

### Адносіны да дзяцей у школе.

Але вось паглядзім, што добрага пролетарскія дзеці бачаць у школе. „Культурныя" немцы любяць лаяць „бальшавіцкія школы" і ганарыцца сваімі. Паглядзім, ці правы яны?

У кожнай дзіцячай часопісі (якіх у Нямеччыне выходзіць некалькі), вы сустрэнеце шмат допісаў са скаргамі на кепскія адносіны настаўніка, на пабоі апошняга. Вось некалькі фактаў „культурнага выхаваньня".

„Дзяўчынка ня можа паказаць на географічнай карце якуюсьці мясцовасьць,— настаўнік б'е яе па твары і кіем па сьпіне".

„Адзін настаўнік за дробныя правіннасьці б'е дзяцей кіем і кулакамі, пакуль яны ня страцяць прытомнасьць".

Мы ведаем, што ў Нямеччыне існуюць дзіцячыя комуністычныя групы. Як яны адносяцца да падобных фактаў?

Яны зьбіраюць подпісы бацькоў пад заявамі аб вызваленьні дзяцей ад такіх настаўнікаў, распаўсюджваюць лістоўкі да бацькоў і вучняў з заклікам змагацца за лепшую школу.

# Што сказаў т. Кук нашым піонэрам.

*(У сьнежні месяцы мінулага году ў Маскве адбылася конфэрэнцыя піонэраў, на якой выступаў т. Кук (прадстаўнік ангельскіх гарнякоў). Ніжэй яго прамова).*

### Як працуюць гарнякі.

Я—прадстаўнік аднаго мільёну ангельскіх гарнякоў, і пяці мільёнаў, калі будзем лічыць з іх жонкамі і дзяцьмі. Гарнякі,як вы ведаеце, працуюць у шахтах, праца іх вельмі цяжкая і небясьпечная. У нас дзеці пачынаюць працаваць з 14 гадоў. Ня так даўно быў час, калі дзеці спушчаліся ў шахты з 9-ці год ад нараджэньня.

Было-б натуральна думаць, што такая цяжкая і небясьпечная праца добра аплачваецца. Але не, яна аплачваецца вельмі кепска І вы ведаеце, што апошні лёкаут, які цягнуўся 7 месяцаў, быў абвешчан гарняком з тае прычыны, што яны не жадалі згадзіцца на патрабаваньні прадпрыемцаў павялічыць працоўны дзень і паменшыць заработную плату.

### Дзьве манэты.

Вось дзьве манэты—савецкая і ангельская. На ангельскай манэце адбітак караля, на вашай-жа, савецкай манэце,—адбітак рабочага. У гэтым, таварышы, маецца вялікая розьніца, мы таксама жадаем, каб на нашых манэтах быў адбітак не караля, а свайго таварыша-рабочага. (Воплескі). Мы жадаем зьмяніць наш лад так, каб ён быў тым-жа ладам, які маецца зараз у вас. (Воплескі).

### Прывітаньне піонэрам.

Перадаю вам прывітаньне ад ангельскіх рабочых. (Воплескі).

У мяне ёсьць сын і дачка. Я лічу вельмі карысным паслаць сваіх дзяцей у чужую краіну і часова абмяняць на дзяцей другіх народаў. Я сабіраюся паслаць у Савецкую Расію свайго сына і дачку і атрымаць у замен двух расійскіх дзяцей. (Воплескі).

Калі прыеду ў Англію, я буду змагацца з распаўсюджваемай аб вас маной. Яшчэ раз хачу перадаць вам шчырае братэрскае прывітаньне ад нашых рабочых. Памятайце, што ўвесь сьвет глядзіць на Савецкую Расію.

---

## Сані, якія вязуць сябе самі.



**На нашым малюнку паказана зусім новая, нядаўна вынайдзеная машына, якая называецца аэросанямі. Заместа калёсаў яна мае знарочыстыя лыжы, што дае ёй магчымасьць ісьці па любой сьнежнай дарозе. Хуткасьць яе—40-100 кілёмэтраў у гадзіну.**

# Разгон Беларускай Рабоча-Сялянскай Грамады ў Польшчы.





БРСГ—адна з найбольш рэволюцыйных арганізацый у Заходняй Беларусі. Яна ў апошні час налічвала звыш 100 тысяч рабочых і сялян.

Баючыся ўсё больш і больш узрастаючай рэволюцыйнасьці гэтай арганізацыі, панская Польшча парашыла турмамі і зброяй прыдушыць рух працоўных.

У канцы студзеня г. г. пачаўся масавы арышт кіраўнікоў, а пасьля і радавых сяброў Грамады. Поруч з арыштамі адбываліся зьверскія нечалавечыя катаваньні людзей, якія ўваходзілі ў склад арганізацыі.

На нашым малюнку—Валошын, Мятла і Ваўчок (ляжыць зьбіты)—члены Грамады, якія былі зьбіты ў часе зьезду польскай ахранкай. Гэты выпадак, бязумоўна, не адзін.

Уся Заходняя Беларусь цяпер стала месцам турмаў і крыві. Паліцыя забівае на сьмерць рабочых і сялян нават за тое, што апошнія спрабуюць рабіць свае мітынгі. Так, у Косаве (Палесьсе) паліцыя забіла чатырох сялян і 6 цяжка параніла толькі за тое, што апошнія, прыехаўшы на рынак, прынялі ўдзел у мітынгу супроць арышту беларускіх дэпутатаў.

## Оркестр бяспрытульных.

На гэтым малюнку—удзельнікі оркестру бяспрытульных, які знаходзіцца ў г. Растоў-на-Доне. Оркестр быў арганізаваны проф. Я. А. Белагорцавым у 1920 г. ў станіцы Уманскай. Спачатку гэта была пролетарская музыкальная школа для дзяцей беднаты. З цягам часу яна пачала організоўваць вакол сябе ўсё большы і большы лік бяспрытульных дзяцей, якія дужа зацікавіліся музыкай. Цяпер у оркестры маецца 100 чалавек дзяцей.






Апавяданьне **Янкі Маўра**. Малюнкі **А. Тычыны**.

*(Працяг*)*.

Відаць было, як усе былі здаволены і ўважліва даглядалі за пацярпеўшым.

Ня меншай увагай карысталася і „ратункавая прылада“. Дзеці цягалі яе і так і гэтак, урэшце, зусім зламалі і доўга яшчэ махалі дубцамі, ня ведаючы, што ўжо гэтая самая гульня ёсьць вялікае дасягненьне.

Нават павадыр зьвярнуў на гэтае ўвагу, узяўся за дубец, патрымаў яго, але, ня ведаючы што з ім рабіць, кінуў на зямлю.

Зноў яны падышлі к вялікаму моманту і зноў прайшлі міма...

Тымчасам Краг зусім адышоў, падняўся і адчуваў сябе досыць добра.

Але, каб людзі ўмелі сьмяяцца, яны ня ўтрымаліся-б ад сьмеху, гледзячы на Крага. Сярод сваіх касматых братоў ён адзін быў „гладкі“: ліпучая гразь, пакрыўшая яго цела, цяпер засохла і надала яму такі выгляд, што нават ня ўмеючыя сьмяяцца неяк зьдзіўлена глядзелі на яго і крывілі свае морды.

Пацягнуліся далей. Мінулі балота, зноў увайшлі ў густы лес. Павадыр пільна азіраўся, бо ён ведаў, што ў гушчары заўсёды можна чакаць неспадзяванае небясьпекі.

І запраўды: ня мінула і гадзіны, як раздаўся асабліва зычны і трывожны крык павадыра. Адразу ўсе замятусіліся і, нават ня ведаючы яшчэ адкуль і якая пагражае бяда,—апынуліся на дрэвах.

Тады толькі разгледзелі, што паміж дрэў мільгаюць нейкія рыжаватыя зьвяры, падобныя да нашых тыграў, толькі значна большыя. Гэта былі самыя страшныя драпежнікі ня толькі таго часу, але і наогул на зямлі. Завуць іх махайродамі. Апрача сілы, спрытнасьці і лютасьці яны адзначаліся яшчэ сваімі вельмі вострымі клыкамі-кінжаламі, сантымэтраў 15—20 даўжыні, загнутымі і шчарбатымі.

---

*) Глядзі „Б.П.“ № 1–2.

Львы і тыгры перад імі былі нішто, але чамусьці гэтыя махайроды даўно ўжо згінулі і лічацца „дапатопнымі“, тады як слабейшыя ад іх львы і тыгры засталіся.

Астатнія людзі ледзь пасьпелі ўзьлезьці на дрэвы, як драпежнікі абхінулі іх. Махайродаў было штук 8—10. Відаць, яны былі вельмі галодныя, бо не адыходзілі ад дрэў, на якіх сядзелі людзі, увесь час пазіралі на іх і нават станавіліся на заднія лапы, каб дастаць да іх. Жудасна было глядзець як яны круціліся навокал.

Адзін з іх неяк падскочыў і зачапіўся пярэднімі лапамі і зубамі за ніжэйшую галіну. Ён круціўся, блытаўся, матаючы заднімі нагамі ў паветры. Людзі падняліся вышэй і са страхам сачылі за яго рухамі. Але, нарэшце, ён абарваўся і зваліўся на зямлю.

Другія прабавалі грызьці дрэвы, так, што трэскі ляцелі з-пад іх страшэнных клыкоў. Але мала-па-малу яны супакоіліся і паляглі пад дрэвам. Здавалася, яны парашылі чакаць, пакуль хто зьлезе...

Мінута, гадзіна, другая. Махайроды і ня думалі адыходзіць. А ад часу да часу некаторыя адыходзілі, зноў вярталіся. Відаць было, што яны зрабілі тутака прыпынак на доўгі час.

Яшчэ гадзіна прашла. Становішча людзей рабілася дрэнным.

Тады яны папрабавалі пашукаць іншага шчасьця: уцячы па дрэвах, як малпы.



Сярод дрэў паказаўся насарог*)

Павадыр пералез на суседняе дрэва; за ім другія. Потым—на трэцяе. Горш за ўсіх было маткам з дзецьмі, але неяк перайшлі і яны.

*) Гэты малюнак памылкова быў зьмешчаны ў № 1-2.

Але далей ужо было горш. Наступнае дрэва стаяла ня так блізка, каб усе маглі лёгка перайсьці. Спрытны Ра пераскочыў на суседнюю галіну, але яна так нахілілася і расхісталася, што другім няма чаго было і думаць пераскочыць.

Каб нашы людзі маглі разважаць, яны цяпер пашкадавалі-б, што мала падобны да малпаў.

Тымчасам махайроды пачулі шум у гальлі і кінуліся ў гэты бок. Няма чаго было рабіць, прышлося пакінуць свой плян...

Але вось у лесе пачуўся шум. Драпежнікі паўскаквалі і прыслухаліся. Сярод дрэў паказаўся насарог. Раптам махайроды кінуліся да яго і абхінулі з ўсіх бакоў.

Насарог глуха зароў, схіліў галаву і рынуўся на пярэдняга. Той адскочыў, а ў гэты самы момант чатыры пары клыкоў прабілі яго ў чатырох мясцох.

Страшны рэў пракаціўся па лесе, і насарог, як шалёны, пачаў кідацца ва ўсе бакі. З адчаю ён выявіў такую спрытнасьць, якой нават і нельга было чакаць ад гэтай аграмадзіны-волата. Але толькі аднаго ворага яму ўдалося разарваць сваім ротам, тады як сам ён атрымаў ня менш дзесятка ран.

Як ні страшэнныя былі гэтыя раны, але дзеля такой вялізнай тоўстаскурай жывёліны яны ня былі яшчэ сьмяртэльныя, бо не папсавалі ўнутраных органаў. Бойка цягнулася...

Насарог зьнішчыў яшчэ аднаго ворага, затое сам ён меў выгляд нейкай кучы мяса, якое кавалкамі вісела з усіх бакоў. Ён сабраў астатнія сілы і пабег наперад. Але хутка грукнуўся на зямлю, і на яго населі махайроды.

Тады толькі людзі асьцярожна зьлезьлі з дрэў і ціханька пайшлі далей.

## IV.

Ужо некалькі дзён цягнецца дажджлівае надвор'е. Сонца выгляне на кароткі час і зноў хаваецца, не пасьпеўшы асушыць зямлю. Асабліва вільгатна і холадна ў лесе ноччу. Доўгія гадзіны сядзяць людзі дзе-небудзь пад дрэвам, прытуліўшыся адзін да другога, каб сагрэцца. Па ўсяму целу бязупынна цячэ вада; пад імі лужыны. А ноч цягнецца, цягнецца бясконца.

Надыходзіць дзень, таксама хмарны і дажджлівы, і прыносіць з сабой толькі голад. Бязмоўныя, хмурыя бадзяюцца яны навокал, здавальняючыся ўсім, што трапіць у рукі. Няма ўжо тэй абшчыцельнасьці, якая зазначалася перад гэтым. Няма ўжо тых „гутарак“, рухаў. Мала ўжо чалавечага на іх зьвярыных тварах; усё часьцей і часьцей выбухае злосьць. Адзін раз з-за нейкай жабы ледзь адзін другому горла не перагрызьлі.

Паступова пачалі яны выходзіць з вільготнага лесу, накіроўваючыся ў той бок, дзе мясцовасьць узвышалася. Лес парадзеў, надвор'е крыху праясьнілася, і яны ўбачылі перад сабой іншую мясцо-

васьць; замест лесу цягнуўся шэраг камяністых узгоркаў, сярод якіх было раскідана шмат вялізных скал. У некалькіх кроках ад іх дзьве такія скалы, наваліўшыся адна на адну, стварылі, нібы-та страху, ці будку, у якой можна была схавацца ад дажджу. І калі ў гэты момант зноў запырскаў дождж—людзі, зразумела, накіраваліся ў гэту пяшчэру. З якой прыемнасьцю мокрыя, змораныя людзі разьмясьціліся ў сухой пяшчэры! Здавалася, што яны адразу забыліся аб голадзе і аб холадзе, і аб усіх другіх ліхасьцях. Яны расьселіся і разьляглі́ся на сухой зямлі і можа першы раз у сваім жыцьці адчувалі сябе „як дома“.

А там на дварэ надвор'е разгулялася не на жарт. Асабліва злаваў вецер, які намерваўся перайсьці ў буру. Набліжаўся грукат грому.

Вось і каплі дажджу сталі дасягаць сярэдзіны пяшчэры. Тут толькі заўважылі, што з другога боку пяшчэры, крыху вышэй, таксама была дзірка, праз якую і даставаў дождж. Але бяда была невялікая: прытуліліся па куткох—і ўсё добра.

Бура тымчасам павялічвалася; гром грукацеў ужо над самай пяшчэрай. Але-ж затое, як прыемна было адчуваць, што цябе гэта ня тычыцца, што тутака суха і ціха, у той час як там...

Але вось на шэрым фоне ўваходу ў пяшчэру вызначылася нейкая вялікая цёмная маса, спынілася, быццам зьдзіўленая, — пачуўся грозны, хрыплы крык. Гэта зьявіўся „гаспадар дому“, так званы пяшчэрны леў. Хаця нельга было назваць яго царом тагочасных зьвяроў, але для тагочасных людзей ён ва ўсякім разе быў цар.



Гэта зьявіўся „гаспадар дому“.

Як ашалелыя кінуліся людзі ў другі канец пяшчэры, дзе на іх шчасьце было другое выйсьце. А сьледам за імі загрукацеў аглушаючы рык зьвера. Рык гэты напоўніў усю пяшчэру і заглушыў усё: і жудасныя крыкі людзей, і шум буры, і нават грук ад грому.

На другім-жа канцы людзі ў гэты момант ціскаліся, душылі адзін другога. Кожны хацеў уцячы першым. У правадыра ў гэты час зьявіўся чалавечы дух: ён адпіхнуў тых мужчын, якія заціскалі жанчын і дзяцей, зьменшыў натоўп, і, дзякуючы гэтаму, усе ў момант уцяклі. Гэтаму дапамагло яшчэ тое, што леў, ня ведаючы, якія там ворагі і колькі

іх, крыху стрымаўся. А калі ён скокнуў, дык пасьпеў толькі крыху крануць астатняга чалавека.

Але ўсё-ж без бяды не абышлося. У гэтай мятусіне ў аднэй жанчыны высьлізнула з рук поўгадовае дзіцянё. Яно пішчала там у пяшчэры адно, а матка тулялася ля дзіркі, ня ведаючы, што рабіць. Сэрца яе разрывалася ад жалю; некалькі разоў яна пасоўвалася наперад, быццам намерваючыся кінуцца да льва. Але яна адчувала, што гэта будзе дарэмна. Тым больш, што яна засталася адна: другія ўжо ўцяклі.

Яны беглі ў лес, не азіраючыся. У іх вушах усё яшчэ стаяў страшэнны рык льва. Да гэтага далучаўся грукат грому і блісканьне маланкі. Яны спыніліся пад шырокім дрэвам, цесна зьбіліся ў гурток і так стаялі, дрыжучы ад страху і холаду. Дождж ліў, як з вядра. У гэты час леў-пераможнік разьмяшчаўся ў сваім уласным доме. Ён нават не забіў дзіцяці, а толькі з цікавасьцю ўглядаўся да гэтага незнаёмага здарэньня. Дзіцянё жалобна пішчала, махала ручкамі і ножкамі. Леў асьцярожна крануў яго, потым перавярнуў на другі бок. Дзіцянё пачало яшчэ больш крычаць.

Урэшце ўсё гэта абрыдзела льву і ён прыдушыў дзіцяне сваёй цяжкай лапай. Ён быў сыты, спакойны, у цяпле. Нішто яму не пагражала. Яму ня трэба было вельмі „ламаць“ галаву, каб пражыць. На гэтых нікчэмным двуногіх істотаў, якія тут яму трапіліся, ён у другі раз нават не зьвярнуў-бы ўвагі.

Калі крык дзіцяці спыніўся, маці адышла ад пяшчэры і накіравалася ў той бок, куды пайшлі ўсе другія. Страта дзіцяці адчувалася ў яе сэрцы. Але куды горш стала, калі яна апынулася адна сярод цемры і буры. Яна ніколі ня была ў такім становішчы. Яны заўсёды трымаліся адзін другога. Толькі такім чынам яны ўсе і маглі існаваць. І ў гэтым была будучая перавага чалавека над такім сільным зьверам, як леў, які ніколі чарадой ня ходзіць.

Добра яшчэ, што нашы людзі ад страху беглі проста і спыніліся пад першым дрэвам. Толькі такім чынам маці трапіла на іх; інакш яна-б загінула, як гэта ня раз здаралася ў іх жыцьці. Моўчкі далучылася яна да гуртка, на што ніхто не зьвярнуў увагі. Аб яе горы ніхто нават ня ведаў. Усе адчувалі толькі, што ім наогул дрэнна, паасобных-жа абставінаў яны сабе не ўяўлялі. Толькі ў 2-3 чалавек засталіся некаторыя вобразы аб мінулым здарэньні. Правадыр, напрыклад, уяўляў сабе страчаную сухую пяшчэру, у якой было так добра, і зьвера, які іх выгнаў. Відаць было, што некаторыя хваляваліся, варушыліся, злавалі, значыцца, нешта думалі аб тым, што адбылося.

І гэта быў надзвычайна вялікі знак: гэта значыла, што яны перажывалі ўражаньне ў адсутнасьці зблізку прычыны, яны маглі думаць аб тым, што ўжо было. А іх магутны вораг гэтага ня ўмеў. Ён мог думаць толькі аб тым, што ёсьць, што знаходзіцца перад яго вачыма. Аб розных адбыўшыхся падзеях яму ня прыходзілася думаць.

*(Працяг будзе).*



# Наша жыцьцё.

## Зьнішчылі варожасьць.

*(Менск).*

Паміж 33 і 22 атрадамі, якія прымацаваны да ячэйкі БДУ, існавала нейкая варожасьць. Піонэры аднаго атраду ня ладзілі з піонэрамі другога.

Саветы абодвых атрадаў, абмеркаваўшы гэта пытаньне, прышлі да вываду, што дзеля таго, каб зьмяніць адносіны паміж піонэрамі, трэба наладжваць больш сумесных сходаў, вечароў і г. д. Сіламі абодвых атрадаў быў пастаўлен вечар, на якім устанавілася паміж атрадамі спайка і нармальныя сяброўскія адносіны.

**І. Сапір.**

## Вакацыі не прайшлі дарма.

*(Мястэчка Старобін).*

За час зімовых вакацый нашы піонэры пасьпелі шмат чаго зрабіць. З прычыны вольнага часу, зьвеньні працавалі па некалькі разоў у тыдзень. Праводзілася практычная праца па краязнаўству, якая вельмі зацікавіла піонэраў. Праводзіліся па зьвеньнях розныя гутаркі і інш. **М. Варшал.**

## Мы расьцём.

*(Мястэчка Узда, Меншчына).*

У нашым мястэчку першы атрад з'арганізаваўся ў 1924 годзе. З таго часу узьдзенская піонэрарганізацыя стала хутка расьці і зараз складаецца з 4-х атрадаў, з якіх адзін яўрэйскі.

Усе атрады маюць шэфаў, якія ім матар'яльна дапамагаюць. Нядаўна пабудавалі піонэрскі клюб. Вялікая цяга неарганізаваных дзяцей у піонэры дае магчымасьць думаць, што лік нашых атрадаў будзе расьці.

**Дзяткор В. Трус.**

## Замест царквы—у атрад.

*(Вёска Ляхавічы, Койданаўскага раёну)*

Калі ў нашай вёсцы ня было піонэратраду, мы былі цёмнымі і неарганізаванымі. Па нядзелях дзеці наведвалі царкву і маліліся богу.

Але вось у мінулым годзе з'арганізаваўся ў нас піонэрскі атрад, у які адзін за другім пайшлі працаваць вясковыя дзеці. Нашы піонэры ўжо добра ведаюць свае законы і звычаі і імкнуцца іх выканаць.

Трэба ўсім дзецям, якія яшчэ вераць у бога, кінуць царкву і стаць піонэрамі.

**Піонэр Алесь.**

## Праца піонэрскага клюбу.

*(Мястэчка Узда).*

Наша местачковая піонэрарганізацыя мае свой клюб, які працуе добра. Пры клюбе маецца цэлы шэраг гурткоў: санітарны, вайсковы, дзяткорскі і г. д.

Кожны вечар клюб напоўнен піонэрамі комсамольцамі, якія праводзяць гульні, чытаюць газэты, гуляюць у шашкі ды інш. Маецца піонэрская бібліотэка, якая налічвае 1.300 кніг.

**Д. Кантаровіч.**

## Сувязь з чырвоным флётам.

*(Горад Мсьціслаў, Калінішчына).*

3-е зьвяно атраду пры Белпэдтэхнікуме зьвязалася з чырвонафлётцамі лінкору „Парыская комуна“. На пасланы намі ліст хутка прышоў атказ. Чырвонафлётцы пішуць пра сваё жыцьцё і даюць адрас, па якому можна будзе весьці з імі перапіску. Спадзяемся трымаць з імі сувязь і надалей.

**Дзяткор Ю. Т.**

## Выказаліся супроць гарбузікаў.

*(Капыль, атрад імя Адамовіча, Случчына).*

На сходзе нашага атраду адзін піонэр узьняў пытаньне аб тым, каб піонэрам дазволілі грызьці гарбузікі. Пры гэтым ён ставіў у прыклад другія атрады, дзе лузганьне гарбузікаў знаходзіцца „ў модзе“.

Па гэтаму пытаньню распачалася сапраўдная „дыскусія“. Нарэшце выказаўся памоцнік павадыра атраду. У сваім слове ён спыніўся на тэй шкодзе, якую прыносяць гарбузікі.

Усе галасавалі за тое, каб гарбузікаў ня грызьці. **Максім Дурасьвет.**

## Ня маем шэфа.

*(Мястэчка Грэск, Случчына).*

Грэскі атрад працуе слаба з прычыны адсутнасьці шэфа і сродкаў. Адчуваецца недахоп у самых патрэбных рэчах, як папера, гальштукі і інш. Каб здабыць гэтыя рэчы, піонэрам прыходзіцца самім зьбіраць па капейцы грошы, а гэта вельмі цяжка.

Хата-чытальня і ячэйка ЛКСМБ ня ідуць нам насустрэч у той час, як яны маглі-б шмат у чым дапамагчы.

**Я. Астроўскі.**

# Недахопы ў працы.

## Павадыр нічога ня робіць.

*(Цытва, Шацкі раён).*

Дзякуючы дрэнным адносінам свайго павадыра, мясцовы піонэрскі атрад вельмі слаба працуе. На гэта ніхто не зьвяртае ўвагі, між тым атрад знаходзіцца на пярэдадні распаду. **У. С.**

## Дрэнны прыклад.

*(Мястэчка Зэмбін).*

У 31 атрадзе маецца некалькі піонэраў-комсамольцаў, якія ня прымаюць ніякага ўдзелу ў атраднай працы і нават шкодзяць ёй.

На занятках зьвяна, замест таго, каб слухаць павадыра, яны бегаюць па клюбе і займаюцца рознымі непатрэбнымі рэчамі, падаючы кепскі прыклад астатнім піонэрам.

Трэба гэтакіх піонэраў-комсамольцаў перадаць на бюро ячэйкі, каб апошняе прыцягнула іх да саюзнай адказнасьці за дрэнныя паводзіны ў атрадзе.

**Піонэр А. Рубін.**

## „Рэжуць“ у карты.

*(Вёска Валоўнікі, Койданаўскага раёну).*

Сярод вучняў мясцовай сямігодкі вельмі пашырана гульня ў карты. Амаль кожны вечар яны зьбіраюцца ў чыёй



небудзь хаце і гуляюць аж да позьняга часу. Гульня не абыходзіцца бяз лаянкі і іншых дрэнных учынкаў.

Хто-б гэта адвучыў нашых вучняў гуляць у карты?

**Саша.**

# Як мы наладзілі гарачыя сьнеданкі.

*(З жыцьця Менскай Цэнтральнай Дасьледчай школы).*

I.

На лаўках, за вучнёўскімі сталамі, сядзелі ўсе настаўнікі школы, вучком, прадстаўнікі ад бацькоў і ўважліва слухалі даклад аднаго з настаўнікаў пра хатняе жыцьцё вучняў яго клясы.

— Вось вам, таварышы, малюнак,— гаварыў дакладчык:—Жыла сям'я ў вёсцы Віленскай губэрні. У час царскай вайны матка з дзецьмі прымушана была ехаць у сучасны Ленінград, дзе працаваў на хімічным заводзе яе муж. У скорым часе ён захварэў на сухоты. Матка з хворым чалавекам і з малымі дзяцьмі паехала ў Сібір. Скора там бацька памёр, два старэйшыя сыны, змабілізаваныя Калчаком, уцякаюць з яго войска і далучаюцца да партызан. Для маткі з дробнымі дзяцьмі пачынаецца жыцьцё поўнае небясьпекі й непакою.

Гады тры таму назад сям'я пераехала ў Менск, дзе і жыве на кошт двух старэйшых жанатых братоў—рабочых гарбарнага заводу.

Скончыў настаўнік свой даклад. На сходзе цішыня: кожны думае, які вынік зрабіць з гэтага дакладу.

Пасьля кароткага абмену думкамі ўсе згадзіліся, што самае лепшае—гэта наладзіць гарачыя сьнеданкі для *ўсіх вучняў* школы. За гэту думку ўсе ўхапіліся, мусіць таму, што яна карцела ў мазгох усяго нашага школьнага калектыву з самой восені. Справа ўпіралася ў грошы. Дзе іх узяць? бацькі бедныя, а ў школьным каштарысе няма „сьняданкавай“ графы. А сьнеданкі вось як патрэбны! Парашылі склікаць бацькаўскі сход.

Даручаем нашаму вучкому апавясьціць праз вучняў усіх бацькоў, што ў нядзелю, а пятай гадзіне ўвечары, у школе адбудзецца сход.

Назаўтрае йду ў малодшыя клясы ўпэўніцца, як зразумелі малыя вучні перададзенае. Падыходжу да аднае дзяўчынкі й пытаюся:

— Ты ведаеш, чаго твае бацькі ды бацькі ўсіх вучняў у нядзелю запрашаюцца ў школу?

— Ведаю! Тут, у нядзельку ўвечары, усім бацькам будуць раздаваць гарачыя сьнеданкі!—упэўнена адказала дзяўчынка. Усе вучні пакаціліся са сьмеху. Я растлумачыў, што будзе ў нядзелю.

II.

Вось і нядзелька. Скора ўжо пяць гадзін, а яшчэ нікога з бацькоў ня чуваць.

„Ня йначай дзеці наблуталі чаго-небудзь, і нікога ня будзе“,—зазначаюць некаторыя з настаўнікаў.

Аднак, праз некалькі мінут, бацькі й маткі пачалі запаўняць нарыхтаваную для сходу клясу.

Загадчык адчыняе сход. Бацькі ўзварухнуліся і нарыхтаваліся слухаць: яны падаліся ўперад, выцягнулі галовы й сьціхлі.

— Таварышы!—пачаў загадчык:—Бадай што ў кожнага з вас пабываў хто-небудзь з настаўнікаў нашай школы дзеля азнаямленьня з хатнім жыцьцём вашых дзяцей, а нашых вучняў.

Нашым дзецям у школе патрэбна падмацаваньне—ім патрэбна гарачае сьнеданьне ў школе. Мы ўсё падлічылі: каштаваць гэта сьнеданьне будзе вельмі танна: за пяць капеек на дзень мы зможам даць вашым дзецям па два абаранкі і па шклянцы гарбаты, а то й па дзьве!—кончыў загадчык.

— Згодны!—пачулася з боку бацькоў.

— А што рабіць, калі хто ня мае з чаго даць, калі ён, прымерна, беспрацоўны, ці хворы, ці вялікую сям'ю мае?—пытаецца адзін з бацькоў.

— Дазвольце мне адказаць на гэта пытаньне,—зварочваецца да загадчыка матка аднае з вучаніц, цётка Ганна.—Я ўпаўнаважана апавясьціць сход ад імя некаторых бацькоў, што яны згодны ўзяць на сябе частку выдаткаў па організацыі ў школе гарачых сьнеданкаў.

— Справу лічу высьвятленай,—сказаў старшыня сходу.

— Хто за тое, каб у школе з першага лютага ўвесьці гарачыя сьнеданкі,—прашу падняць рукі!

Падняўся лес рук.

Сход зачыніўся. Бацькі паабступалі настаўнікаў і распытвалі ў іх пра посьпехі сваіх дзяцей.

III.

Яшчэ ня было й васьмі гадзін раніцы, калі ў школу пачалі зьбягацца вучні: той са шклянкай, другі—з кубачкам, трэці—з маленькім гліняным гладышыкам, або проста з поўлітравікам. У некаторых каля кубачкаў на шпагацінках маталіся лыжачкі.

У час заняткаў пытаюся ў дзяцей:

— Што гэта на вас сёньня напала, што вы аніяк ня можаце супакоіцца?

— А пра сьнеданкі вы забыліся?—кажуць мне дзеці.

У час першага перапынку ў канцы калідору грымнула звонкае рознагалоснае „ура“.

Іду туды. Бачу: сярод рою дзяцей, сьмяючыся, праціскалася наперад дзяўчына з двумя кашамі абаранкаў. Кожны з малых пасвойму хацеў выказаць сваю радасьць: хто крычаў ура, хто пляскаў у ладкі, а адзін хлопчык скакаў на аднэй назе і пеў на невядомы лад тут-жа выдуманы ім вершык:

*„Едуць, едуць абаранкі*
*нам на цёплыя сьняданкі.*
*Эх, любата!“*

Званок на лекцыю ледзьве спыніў у калідоры гоман дзіцячага рою.

Падыходзіць к канцу трэцяя гадзіна заняткаў. Па клясах прабягае старэйшая вучаніца і, ад імя вучкому, перадае такі загад: выйсьці ўсёй школе на пятнаццаць мінут у гарадзкі сад; гаспадарчая камісіі кожнай клясы павінны застацца, расклясьці абаранкі, расставіць і паналіваць гарбатай кубкі і каб да прыходу дзяцей з саду ўсё было гатова.

Усьміхаюцца радасныя дзяўчаткі — г а с п а д ы н і: быць у гаспадарчай камісіі, ды яшчэ сёньня,—хто-ж ня будзе рад з гэтакага шчасьця?!

IV.

Група за групай, пачынаючы з меншых, бягуць дзеці ў свае клясы. На кожным стале дыміліся, па тры па чатыры кубачкі з гарбатай, а каля кожнай пасудзіны ляжалі па два сьвежыя, ружовыя абаранкі. Дзеці шумна разьмясьціліся за сталамі. Праз мінуту школа заціхла.



У які я пакой ні заглядаў,—усюды спатыкаў дзесяткі вясёлых дзіцячых вачэй. І калі я сеў за сваю шклянку гарбаты, наш старшыня клясkому ня вытрываў і сказаў:

— Вось гэта дык правільна—і К. І. з намі!

Часамі з-за сталоў чуліся жарты: Памногу ня глытай—больш не дадуць; перажоўвай—куды глытаеш цэлыя кавалкі: я яшчэ й аднаго абаранка ня скончыў, а ты ўжо другі аплятаеш, што ты ня чуў, як трэба есьці?

Хто прасіў—таму далі і яшчэ па кубку, а прасіў бадай-што кожны.

Зьніклі абаранкі, апаражніліся кубкі; гаспадарчая камісія жвава пазьбірала пасуду і, стаўшы ўпецярых, перацёрла яе чыстым ручніком.

А калі пачуўся званок на чацьвертую гадзіну заняткаў, нідзе й знаку ня было, што ў школе адбыўся сьняданак: пасуда была ў шафе, за чыстымі сталамі сядзелі вучні з чарговай працай у руках,—толькі дзіцячыя твары, якія сьвяціліся радасьцю, напаміналі сьнеданкі.

— Ну, дзеці, як вам спадабалася сьнеданьне?—пытаюся я ў вучняў.

— П а с ь л я сьнеданьня здаецца, што вось толькі што прышоў у школу і гатоў працаваць да вечара,—адказаў адзін вучань.

І запраўды, куды дзелася ў вучняў тая млявасьць, скуль узялася тая энэргія й рухавасьць? Вось ужо другі тыдзень, як уведзены гарачыя сьнеданкі ў школе і другі тыдзень, як у школе аніводнага пустога месца і аніводнага спозьніваньня! Няўжо гэта зрабілі два абаранкі і два кубкі салодкай, гарачай гарбаты?

**К. Шапялевіч.**

Н. Вайнгаўз.

# У дапамогу дзяткоргурткам і рэдколегіям*)

### Дзяткоргурток і насьцен. газэта.

Піонэры і дзеці, якія жадаюць навучыцца пісаць, ідуць у дзяткоргурток, які організуецца ў школе ці атрадзе навакол насьценнай газэты. Якую працу павінен праводзіць гэты гурток?

Папершае, намячаць плян насьценнай газэты, разглядаць матар'ял і разьмяркоўваць па аддзелам, прахадзіць гісторыю друкаванай газэты. Таксама разглядаць вершы, апавяданьні, складзеныя дзяцьмі, вышаўшы нумар насьценнай газэты, хібы апошняга і як іх пазбавіцца ў далейшым. Ніхто не адважыцца сказаць, што навакол насьценнай газэты ня знойдзецца працы.

Надворны выгляд газэты мае вялікае значэньне: будзе чыстая і прыгожая газэта—тады яна стане масавай, усе будуць чытаць яе і пісаць у яе. Рэдколегія павінна прыцягнуць чым больш дзяцей да газэты і да працы навакол яе, разьмяркоўваючы паміж імі абавязкі.

Адзін малюе, другі наразае стужкі з каляровай паперы, трэці клеіць і г. д. Мы павінны абвясьціць барацьбу тым, якія лічаць, што насьцен. газэце патрэбны мастакі—„спэцы". Зразумела, што такі мастак ляпей размалюе газэту, зробіць яе на „яць", але дзе будзе ў такім выпадку наша самадзейнасьць. Мы павінны быць практычнымі гаспадарамі ў сваёй газэце, самі яе рэдагаваць, пісаць і размалёўваць, бо інакш у газэце будуць прымаць удзел асобныя адзінкі, а ня ўвесь колектыў.

Рэдколегія павінна рабіць справаздачы аб сваёй працы, павінна хадзіць па іншых атрадах і школах, глядзець, як там выдаецца газэта, прычым добрыя бакі пераняць, а на дрэнныя зьвярнуць увагу таго атраду і тэй школы, хто выдае газэту.

Некалькі слоў аб форме газэты. Апошняя павінна быць досыць шырокай, каб яе маглі чытаць некалькі асоб адначасова.

*) Канец. Гл. „БП." № 1-2.

### Праца вакол насьценнай газэты—праца ўсіх піонэраў.

Насьценная газэта павінна мець кіраўніка, гэтым кіраўніком і зьяўляецца рэдколегія, якая абрана на агульным сходзе атраду, школы ці дзяткоргуртка.

Хто адважыцца сказаць наступнае: *„мы абралі рэдколегію, даволі з нас, працуйце, браточкі, старайцеся і выпушчайце газэту к тэрміну, нас гэта не датычыцца"*.

Не, у гэтым то і ўся справа. Нельга ўскладаць на рэдколегію ўвесь цяжар працы з газэтай. Рэдколегія зьяўляецца толькі організатарам працы, яна падзяляе апошнюю паміж сваімі сябрамі і ўсімі піонэрамі. Адзін павінен пісаць, другі гладка і чытэльна пісаць, ніякіх адмоў ад працы ня можа быць. Усе павінны браць удзел у газэце, чым больш піонэраў будуць браць удзел, тым больш цікавейшай яна стане.

Час ад часу можна ў клюбе з дапамогай усіх піонэраў наладзіць суд над насьценнай газэтай, з сьведкамі, абаронцамі і інш. Гэты суд прынясе значную карысьць, выявіць недахопы і дрэнныя бакі ў працы. Трэба прыцягнуць да ўдзелу ў судзе ўсіх дзяцей, нават неорганізаваных, прывіць ім каханьне да газэты. Вялікую карысьць можа прынесьці конкурс альбо выстаўка насьценных газэт.

### Не чакайце кампаніі.

Большасьць нашых рэдколегій увесь год нічога ня робіць, але варта толькі зьявіцца якому-небудзь сьвяту, кампаніі, як усё пачынае гарэць пад рукамі. Два, тры дні да кампаніі працуюць да 2-3 гадзін ночы і да сьвята выпушчаюць на сьвет пакалечаную газэту.

Мы павінны прызвычаіцца да такой працы: рэдколегія выпрацоўвае плян і працуе па ім. Калі плян прадугледжвае штомесячны выпуск газэты, апошняя павінна абавязкова выйсьці да гэтага тэрміну.

Старыя насьценныя газэты ня трэба зьнішчаць, іх трэба зьбіраць і захоўваць,

бо, фактычна, насьцен. газэта зьяўляецца люстрай, якая адбівае ўсё жыцьцё і працу атраду, яго гісторыю і г. д.

**Што павінен рабіць дзяткоргурток.**

1) Працаваць вакол насьценнай газэты, сачыць, каб усе члены гуртка прымалі ў ёй удзел.

2) Праглядаць і выпраўляць матар'ялы корэспондэнтаў разам з рэдколегіяй.

3) Адбіраць лепшы матар'ял дзяткоргуртка і перасылаць у нашу часопісь.

4) Цікавіцца, як выдаецца друкаваная газэта (для гарадзкіх атрадаў можна зрабіць экскурсіі ў друкарню).

5) Пашыраць сярод піонэраў і ўсіх дзяцей піонэрскі друк—„Беларускі Піонэр“, „Дэр юнгэр Піонэр“ і інш.

6) Заслухоўваць справаздачы аб працы вучкому і іншых камісій, каб потым высьвятляць іх працу ў насьценных і цэнтральных газэтах.

# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**П. Хэйфэц і Н. Задорын. Гульні юных піонэраў, 55 старонак. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Кошт 40 кап.**

Піонэрская організацыя ставіць сабе аднэй з асноўных мэтаў—выхаваньне моцнага, фізычна-разьвітага і здаровага чалавека, здольнага змагацца за справу рабочых і сялян, за комунізм.

Разьвіцьцю гэтых якасьцяй значна дапамагаюць фізычная культура і некаторыя гульні.

Ёсьць розныя гульні—шкодныя і карысныя. Нам патрэбны гульні апошняга тыпу, якія-б унесьлі ў дзіцячае асяродзьдзе элемэнты таварыскасьці, колектывізму, давалі выхад дзіцячай энэргіі, спрыялі разьвіцьцю добрых якасьцяй усяго організму.

Трэба адзначыць, што да апошняга часу некаторыя атрады недаацэньвалі значэньне гульняў і мала ўжывалі іх у сваёй штодзённай працы. Гэта тлумачылася незнаёмствам як павадыроў, так і піонэраў з належнымі гульнямі, а таксама і адсутнасьцю на беларускай мове адпаведнай літаратуры.

Вось чаму трэба вітаць выхад у сьвет зборніку *Хэйфэца і Задорына*—„Гульні юных піонэраў“.

У гэтым зборніку зьмешчана 66 гульняў, якія падзяляюцца на 3 разьдзелы: хатнія, летнія і зімовыя. Кожнаму разьдзелу гульняў прысьвечаны кароткія тлумачэньні, як іх скарыстаць. Дадзена апісаньне кожнай гульні, мэтодычныя заўвагі да яе і г. д.

З часткаю гэтых гульняў мы ўжо знаёмы; у свой час яны друкаваліся ў „Беларускім Піонэры“ і іншых часопісях. Зараз яны ўжываюцца ў шмат якіх атрадах („ціхая музыка“, „трэці лішні“, „вудачка“, „эстафэта“ ды інш.). Ёсьць тут і новыя цікавыя гульні, незнаёмыя нам дагэтуль.

Аўтары, як відаць, не абмежаваліся простым апісаньнем гульняў, а дакладна распрацавалі кожную з іх і ўжывалі ва ўласнай практыцы. Каштоўнасьць зборніку павялічваецца й тым, што, зьмешчаныя ў іх гульні адказваюць усім правілам гігіены і адначасова здольны зацікавіць і захапіць піонэраў.

Цяпер аб недахопах. Шкада, што ў тэксьце трапляюцца малазразумелыя піонэрам словы (як, напрыклад, „об'ектыўны“, „інтэлектуальны“ і інш.), на якія няма ў кнізе патрэбных тлумачэньняў. Амаль поўная адсутнасьць у зборніку малюнкаў робіць яго некалькі сухаватым.

Але-ж ня гледзячы на паказаныя недахопы, зборнік, бязумоўна, зьяўляецца карысным, каштоўным і заслугоўвае шырокага распаўсюджваньня ў нашых атрадах і школах. Выкарыстаць яго змогуць як павадыры атрадаў, выкладчыкі фізкультуры сярод дзяцей, так і піонэры.

Тэхнічна кніжка выдадзена добра і на добрай паперы.

**Я. Зэльцар.**




*Э. Галубку, піонэрам атраду Наркомасьветы*—Вашы допісы пойдуць у чарговым №.

*М. Варшалу, Шмакаву, Я. Панамараву, В. Кролю. С. Хведаровічу, Адашчыку* і іншым—Вашы допісы ня пойдуць, бо перадаюць яны дробныя і няцікавыя факты. Шмат якія допісы спазьніліся.

*П. Снапу, Л. Кролю, В. Стромкаму*—прысланыя вамі вершы вельмі слабыя і ня могуць быць надрукаванымі.

* * *

Правільнае разьвязаньне задачкі № 1, зьмешчанай у 12 нумар. „Б. П.“—„Сталін“, задачкі № 2, з 12 нумару „Б.П.“—„Купала“ і „Мужык“ прыслалі наступныя таварышы: *М. Сульскі. І. Бакштэйн, В. Навіцкі і А. Адашчык.*

# Запытаньні і адказы.

## Запытаньні.

1. Ці маецца ў продажы піонэрская літаратура на беларускай мове і якая?
2. Што рабіць з піонэрам, які не наведвае сходаў атраду і заняткі зьвеньняў?
3. Ці абавязкова піонэру, які становіцца комсамольцам, заставацца працаваць у атрадзе?
4. Ці прымуць у Комсамол актыўнага піонэра, які мае 13 гадоў?
5. Як зьвязацца атраду БССР з піонэрамі Украіны ці Каўказу?
6. Да якіх гадоў прымаюць у акцябраты?
7. Ці можна піонэру хадзіць у царкву ў такіх выпадках, як напр., сьмерць бацькі?
8. Ці карыстаецца піонэр правам голасу на зборы чужога атраду?
9. Што рабіць з піонэрам-комсамольцам, які вышаў з атраду і пачаў курыць?
10. Чыім органам зьяўляецца піонэрская насьценгазэта: органам сходу атраду ці савету?
11. Ці можна падпісацца псэўдонімам пад корэспондэнцыяй у „Б. П.“?

## Адказы.

1. Маецца. Дагэтуль вышлі з друку наступныя выданьні: *А. Якімовіч*—„Гул бубна“ (апавяданьні). *Хэйфэц* і *Задарын*—„Гульні юных піонэраў“, „Піонэрскі сьпеўнік“, бібліотэчка—„Як працаваць піонэру“ (выданьне Калінінскага АК). Шмат кніжак друкуецца.
2. Трэба высьвятліць спачатку прычыну, па якой гэты піонэр не наведвае сходаў, а пасьля ўжо вырашыць на савеце атраду, што з ім рабіць.
3. Абавязкова.
4. Не. Згодна статуту ў Комсамол прымаюцца дзеці ва ўзросьце ня меншым 14 гадоў, зразумела, пры ўмове іх падрыхтаванасьці.
5. Напісаць аб гэтым ліст па адрасох: Украіна, Харкаў, ЦБ ЮП пры ЦК ЛКСМУ; Тыфліс, ЦБ ЮП пры ЦК ЛКСМЗ і папрасіць гэтыя ўстановы дапамагчы ўстанавіць вам сувязь з якім-небудь атрадам.
6. Да 9-ці гадоў уключна.
7. Няма ніякай патрэбы.
8. Можа выказвацца, але права рашаючага голасу ня мае.
9. Паведаміць аб такім комсамольцу ячэйку, якая прыме адносна яго належныя меры.
10. Насьценная газэта ў атрадзе зьяўляецца органам усяго атраду.
11. Можа. але для ведама рэдакцыі трэба напісаць і сапраўднае прозьвішча, без якога допіс ня будзе зьмешчан.




# Шахматы.

Пад рэдакцыяй **В. Судніка**.

### Задача № 1.

*Н. Карцоў.*



Мат у 2 ходы.

### Як чытаць і запісваць шахматныя партыі і задачы.

Шахматная дошка ставіцца так, каб па правую руку ад абодвых граючых знаходзілася белае кутняе поле.

Дошка дзеліцца на восем уздоўжных (простастаўных) і восем паземных (папярочных) палос па 8 клетак (палей) у кожнай. Восем уздоўжных радоў клетак абазначаюцца зьлева направа літарамі францускага альфабэту: a, b (бэ), c (цэ), d (дэ), e (э), f (эф), g (жэ) і h (аш); восем паземных радоў клетак абазначаюцца лічбамі (зьнізу угару — ад граючых белымі): 1, 2, 3 і г. д. да 8-мі.

Такім чынам кожная клетка мае сваю літару і сваю лічбу (гл. дыяграму).

Усе фігуры (апрача пешак) маюць свае абазначэньні, так:

Кароль абазначаецца знакам . . Кр.
Фэрзь (каралева) „ „ . . Ф.
Ладзьдзя (тура) „ „ . . Л.
Слон (афіцэр) „ „ . . С.
Конь „ „ . . К.

Для абазначэньня хода карыстаюцца знакам (—) (працяжнік), напрыклад Кg1—f3. Гэта значыць, што конь з клеткі g1 пайшоў на клетку f3.

Калі фігура бярэ другую, дык ужываецца знак (×) ці двукроп‘е (:); напрыклад e4 × d5 ці e4 : d5.

Калі трэба абазначыць шах каралю, ставіцца знак + (плюс). Ракіроўка у кароткую старану абазначаецца знакам 0—0, у доўгую—0—0—0.

| | a | b | c | d | e | f | g | h | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | a8 | b8 | c8 | d8 | e8 | f8 | g8 | h8 | 8 |
| 7 | a7 | b7 | c7 | d7 | e7 | f7 | g7 | h7 | 7 |
| 6 | a6 | b6 | c6 | d6 | e6 | f6 | g6 | h6 | 6 |
| 5 | a5 | b5 | c5 | d5 | e5 | f5 | g5 | h5 | 5 |
| 4 | a4 | b4 | c4 | d4 | e4 | f4 | g4 | h4 | 4 |
| 3 | a3 | b3 | c3 | d3 | e3 | f3 | g3 | h3 | 3 |
| 2 | a2 | b2 | c2 | d2 | e2 | f2 | g2 | h2 | 2 |
| 1 | a1 | b1 | c1 | d1 | e1 | f1 | g1 | h1 | 1 |
| | a | b | c | d | e | f | g | h | |

# Жарты і задачы.

### Жарты.

— Чаму, Сымонка, ня мыеш шыі?

— А каб бялей выглядаў каўнерык.

— Чаму гэта чапля стаіць падняўшы адну нагу?

— Дурэнь! Калі-б яна падняла абедзьве, дык упала-б.

— У вас заўжды са столі на падлогу капае?

— О, не! Калі толькі ідзе дождж.

Настаўніца апавядае пра падзеі быўшыя 100-200 гадоў назад.

Малая дзяўчынка: — О, якая моцная памяць у вас, цётка настаўніца!..

### Задачы.

№ 1. Якое мужчынскае імя дадуць назва выспы Грэцыі і мужч. імя, зьвязаныя літарай „ы“?

№ 2. Які мужчына зложан з ноты і часткі павозкі?

### Задача літар № 1 (я. з.).

| | | | |
|---|---|---|---|
| | В | Г | Д |
| Р | А | Н | А |
| А | О | О | Р |

У літарах гэтай фігуры знайдзеце назвы гораду БССР і гораду Зах. Беларусі.

### Задача № 2 (я. з.).

| | | | |
|---|---|---|---|
| | М | | |
| С | А | Т | Б |
| Л | Я | Р | Г |

Прачытайце ў гэтых літарах назву рэвалюцыйнай арганізацыі ў Зах. Беларусі і прозьвішча аднаго з яе кіраўнікоў—дэпутат сойму ад гэтай арганізацыі.

### Ход каня № 3.

| | | | |
|---|---|---|---|
| ш | т | а | з |
| л | о | в | о |
| а | т | у | г |
| | а | р | |
| | м | о | |

Ходам каня прачытаць беларускую народную прыказку.

### Шарада № 1.

Я срэбнымі хвалямі палі і лугі амываю; дадайце літару, і я—расьліна.

Хто я?

### Шарада № 2.

Я маю джала, з Р—я ўлетку і ўвосень зраньня траву пакрываю.

З К—я траву ўбіраю.

Хто я?

## Папраўка.

Пасьля надрукаваньня 1-4-ай стар. вокладкі, выявілася, што кошт часопісі з 1-га сакавіка 1927 г. вызначаецца ў 10 кап. за нумар. Умову падпіскі трэба лічыць:

| | | |
|---|---|---|
| на 3 м-цы | ( 6 №№). . . . | 60 к. |
| на 6 „ | (12 №№). . . . | 1 р. 20 к. |
| на 12 „ | (24 №№). . . . | 2 р. 40 к. |

З гэтага часу „Бел. Піонэр“ будзе акуратна і сваячасова выходзіць 2 разы ў месяц.

Выданьне НКА БССР. Рэдактар—Рэдколегія.